# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№2 (273)
люты 2025

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету “Бацькаўшчына”

**У НУМАРЫ:**

## У Брукліне прэзентавалі “Янку Запрудніка” – кнігу з “Бібліятэкі Бацькаўшчыны”

9 лютага ў грамадскай зале Сабору Св. Кірылы Тураўскага адбылася прэзентацыя кнігі “Янка Запруднік”, якая пабачыла свет у серыі “Людзі эміграцыі”, ініцыяванай Беларускім інстытутам навукі і мастацтва. Кніга выйшла ў выдавецтве Фундацыі Kaminikat.org у Беластоку пры канцы 2024 года. Прэзентацыя была арганізаваная Беларускім інстытутам навукі і мастацтва сумесна з Беларускай фундацыяй Крачэўскага пры інфармацыйнай падтрымцы Асацыяцыі беларусаў у Амерыцы.

Старонка 3





# БЕЛАРУСКІ ЛІЦЭЙ У ГАЙНАЎЦЫ: ЯК ЖЫВЕ І НА ШТО СПАДЗЯЕЦЦА

Дырэктар беларускага ліцэя ў Гайнаўцы Ігар Лукашук: “Кожны год мы атрымліваем званне “срэбнай школы”, а значыць, знаходзімся сярод найлепшых у ваяводстве”.

Не проста школа, але таксама непаўторная атмасфера, народжаная дзесяцігоддзямі руплівай працы настаўнікаў, бацькоў і вучняў. Большасць з іх – гэта нашчадкі тутэйшых беларусаў, якія захоўвалі сваю тоеснасць, не зважаючы на неспрыяльныя гістарычныя турбуленцыі.

II Агульнаадукацыйны ліцэй з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы (Польшча), вядомы як проста Гайнаўскі беларускі ліцэй, бярэ свае пачаткі з 1949 года. Мае багатую гісторыю, традыцыі, поспехі, але… На сёння не вызначаны яго далейшы лёс. Пра гэта, а таксама пра тое, чым жыве ліцэй, як натхняе моладзь да вывучэння роднай мовы, у размове з Budzma.org распавёў дырэктар ліцэя Ігар Лукашук.

### З надзеяй на лепшае

**– Як на сёння выглядае беларускае навучанне ў ліцэі, ці шмат вучняў вучаць родную мову?**

– Каля 90 адсоткаў нашых вучняў вывучаюць на гэты момант беларускую мову. Але мы маем надалей не вырашаныя фармальныя справы з боку Міністэрства адукацыі, таму невядома, якая будучыня перад намі. Ніякіх канкрэтных прапаноў наконт таго, як маюць выглядаць меншасныя школы (Школы з вывучэннем мовы нацыянальнай меншасці. У выпадку ліцэя – беларускай – рэд. Budzma.org), як яны маюць функцыянаваць, на што абапірацца, надалей няма. Ну але што ж… Ёсць надзея, што гэтыя справы будуць хутка ўпарадкаваныя. Зразумела, было б гэта не толькі пажаданым, але ёсць у гэтым і вялікая патрэба з боку школьнага асяроддзя, з боку бацькоў, настаўнікаў, вядучага органа, старастве, якое вядзе гэтую школу, але ёсць такое чаканне і з боку беларускіх меншасных арганізацый.

**– Прыгаданыя вамі фармальныя справы цягнуцца ўжо два гады…**

– Можна сказаць, што ўжо нават тры гады, бо гэта пачалося з беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім. І потым гэты працэс перайшоў на Гайнаўскі ліцэй. Такая пайшла новая інтэрпрэтацыя, што ў гэтых школах вучні не абавязкова маюць вывучаць беларускую мову.

### У чым сутнасць праблемы

У беларускіх ліцэях у Бельску Падляшскім і Гайнаўцы вывучэнне беларускай мовы было абавязковым для ўсіх вучняў, бо дзеля гэтага і ствараліся адукацыйныя ўстановы. Да таго ж навучэнцы здавалі экзамен на атэстат сталасці (матуру) па беларускай мове як мове нацыянальнай меншасці. Знайшліся ў школьных Статутах і адпаведныя палажэнні на гэты конт.

Аднак прыкладна ў верасні 2022 года частка бацькоў у Бельскім ліцэі не захацела, каб іх дзеці вывучалі беларускую мову, знайшоўшы для гэтага фармальную падставу.

Працяг на старонцы 7.

кнігі

# У Польшчы перавыдаюць успаміны Ларысы Геніюш

Фонд "Камунікат" і Цэнтр беларускай культуры ў Беластоку перавыдаюць успаміны паэткі Ларысы Геніюш, якія раней выходзілі з назвай "Споведзь". Новае выданне будзе называцца "Птушкі без гнёздаў".

Кнігу можна проста цяпер замовіць са зніжкай на сайце Kamunikat.shop! Высылка пачнецца пасля 16 лютага. Кніга таксама выходзіла на некалькіх мовах і пад рознымі загалоўкамі – у арыгінале "Споведзь", па-польску "Ptaki bez gniazd", а па-чэшску – "Pani Doktorowa". Аднак, як у "Слове ад унука" піша Міхась Геніюш, сама аўтарка лічыла, што кніга мусіць называцца "Успаміны".

"Мая бабуля супрацьўлялася такой назве ["Споведзь"] яшчэ пры жыцці, – дадае Міхась Геніюш, – сцвярджаючы, што людзі вызнаюць свае грахі і дрэнныя ўчынкі, але ў яе не было такіх перад сваёй краінай. Грахі і несправядлівасці сапраўды былі здзейсненыя, але ў адносінах да яе, і за гэта ейнай сям'і давялося заплаціць такую бязлітасную цану".




Прадмову да ўспамінаў Ларысы Геніюш "Птушкі без гнёздаў", якія выходзяць у Беластоку, напісаў вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў, які часта наведваў Бабулю ў Зэльве:

"Так мы называлі яе ў лістах і тэлефонных размовах, з любасцю, але і з асцярогаю, з увагі на "таварышаў маёраў", нашых куратараў з органаў. Бабуляю яна часта была і проста ў прыяцельскіх гаворках, што маглі падслухаць чужыя вушы. Зрэшты, думаю, гэбісты цудоўна ведалі: Бабуля – Ларыса Антонаўна Геніюш".

"Апошняя сустрэча не магла быць доўгаю. Бабуля абняла нас ужо аслаблымі рукамі, багаславіла і на хвіліну замаўчала. А тады мы пачулі словы-запавет, пра якія можна сказаць: на ўсе часы. "Трымайцеся Беларусі і трымайце Беларусь"", – прыводзіць словы Уладзімір Арлова Kamunikat.org.

У 2025 годзе спаўняецца 115 гадоў з дня нараджэння Ларысы Геніюш. Напярэдадні гэтага юбілейнага года, 19 снежня 2024 чэшскія ўлады прынялі рашэнне пра аднаўленне чэшскага грамадзянства Ларысе і Янку Геніюшам. У дакуменце гаворыцца, што яны ніколі не страчвалі гэтага грамадзянства, і што іх выдача савецкім уладам была незаконнаю.

bellit.info

# Выйшаў новы выпуск "Запісаў БІНіМ"

Пабачыў свет новы сорак чацвёрты выпуск "Запісаў БІНіМ", які атрымаўся досыць стракатым, мажліва нават эклектычным, зрэшты, як і ўсё беларускае нацыянальнае жыццё на эміграцыі і ў мінулым, і ў сучаснасці. Розныя чытачы змогуць знайсці сярод змешчаных тут матэрыялаў нешта для сябе цікавае.

Надзвычай важнай у гэтым выпуску з'яўляецца публікацыя ўпершыню ўспамінаў Людмілы (Мікі) Канчэўскай – жонкі беларускага філосафа Ігната Канчэўскага. Пераклад на беларускую мову з выдатнымі каментарамі падрыхтавалі Святлана Курс, Марыя Мартысевіч і Тамара Юстыцкая.


ЗАПІСЫ
БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ й МАСТАЦТВА
BELARUSAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES
ZAPISY 44
НЬЮ-ЁРК – БЕЛАСТОК
2024

У рубрыцы "Эпісталярыі" – перапіска Вацлава Пануцэвіча і айца Льва Гарошкі і ліставанне з архіваў Антона Адамовіча і Юркі Віцьбіча, ліставанне Ларысы Геніюш, а таксама прапанаваная Ганнай Янкутай перапіска двух пісьменнікаў: беларускага – Кастуся Акулы і польскага – Фларыяна Чарнышэвіча, што закранае балючыя пытанні беларуска-польскіх дачыненняў у XX ст.

У рубрыцы "Выданне" – тэксты малавядомай беларускай ініцыятывы 1940-х – "Ордэну Двупагоні", і найперш вялікі памфлет С. Хізмы (Антона Адамовіча) "Крыху каля "святароў" і "цемняроў" (Зацемкі ўцвеленага філёлёга)".

У рубрыцы "Жанр" публікуецца своеасаблівая аўтабіяграфія пісьменніка Уладзімера Сядуры-Глыбіннага.

У рубрыцы "Угодкі" публікуюцца тэксты да гадавінаў беларускага дзеяча, гісторыка і выдаўца з Кліўленда Міхася Белямука.

Па-за "тэмай нумару", альманах традыцыйна выступае ў якасці пляцоўкі для публікацый вынікаў разнастайных даследаванняў беларусаў з розных краін. І ў новым выпуску рубрыка "Публікацыі" як ніколі тэматычна разнастайная. Тут можна прачытаць заўвагі пра аўтарства "Песні беларускіх выгнанцаў" ад Веры Бейкі; спробу рэканструкцыі архіву Язэпа Драздовіча; біяграфію праваслаўнага святара Міхала Бажар'янава, што працаваў для беларусаў на выгнанні падчас Другой сусветнай вайны, ад Юрыя Грыбоўскага; развагі пра асаблівасці жыцця беларусаў у Заходняй Еўропе пасля Другой сусветнай у святле ліставання беларускага дзеяча ў Францыі Лявона Рыдлеўскага ў тэксце Катажыны Вашчыньскай; спробу аднаўлення біяграфіі пісьменніка Анатоля Цярэшкі, зробленую Наталляй Гардзіенкай і Лявонам Юрэвічам. У тым самым раздзеле Таццяна Астроўская піша пра ліставанне сёлетняга юбіляра Васіля Быкава з балгарскім літаратуразнаўцам і перакладчыкам Георгіем Влчавым, Віталь Воранаў апавядае пра беларускую дуду на паштовых марках, а Наталля Гардзіенка – пра гісторыю ўдзелу беларусаў у амерыканскіх выбарах.

Замовіць кнігу можна праз сайт Kamunikat.org.

bellit.info

# "Танцы над горадам" Уладзіміра Арлова выйшлі па-польску

Дзяржаўны выдавецкі інстытут (Panstwowy Instytut Wydawniczy – PIW) выдаў кнігу Уладзімера Арлова "Танцы над горадам. Тры аповесці" ў перакладзе на польскую мову Багдана Задуры.

У анатацыі на сайце выдавецтва чытаем: "Танцы над горадам" – адна з самых прыгожых і хвалюючых кніг пра дваістую прыроду рэчаіснасці і таямнічасць творчасці. Уладзімер Арлоў – адзін з самых цікавых і папулярных беларускіх паэтаў і празаікаў апошніх дзесяцігоддзяў – пераносіць нас у свет, дзе мары перасякаюць мяжу явы і даюць перадышку ад жахаў рэальнасці, у якой пратэстоўцы гінуць ад снайперскіх куль. Тры гісторыі, якія адбываюцца ў розных краінах (і светах), ствараюць складанае цэлае, дзе неверагодныя лёсы герояў пераплятаюцца і разблытваюцца. У першай аповесці невялікая кампанія самнамбулаў жыве падвойным жыццём: незнаёмыя паміж сабой удзень, уначы яны аб'ядноўваюцца ў таемнае брацтва. У другой аповесці пісьменнік праводзіць эксперыменты з чалавекам са свайго сну, які суправаджае яго падчас напісання твору, а ў трэцяй аўтар турыстычнага даведніка трапляе на кніжны кірмаш у невялікім шведскім горадзе.




Паўсядзённасць на кожным кроку сустракаецца са звышнатуральным, гісторыі захапляюць шырынёй культурных асацыяцый і пранікнёнасцю сацыяльных назіранняў і ў той жа час сапраўды кранальныя, як у апісанні пахавання ахвяр дэманстрацыі, сярод якіх адзін з танцораў-самнамбулаў.

Кніга "Танцы над горадам" у 2018 годзе была ўганараваная літаратурнай прэміяй імя Ежы Гедройца.

Кнігу "Танцы над горадам. Тры аповесці" ў перакладзе на польскую мову можна замовіць на сайце выдавецтва.

kamunikat.org

прэзентацыя

# У БРУКЛІНЕ ПРЭЗЕНТАВАЛІ "ЯНКУ ЗАПРУДНІКА" – КНІГУ З "БІБЛІЯТЭКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

9 лютага ў грамадскай зале Сабору Св. Кірылы Тураўскага адбылася прэзентацыя кнігі "Янка Запруднік", якая пабачыла свет у серыі "Людзі эміграцыі", ініцыяванай Беларускім інстытутам навукі і мастацтва. Кніга выйшла ў выдавецтве Фундацыі Kaminikat.org у Беластоку пры канцы 2024 года. Прэзентацыя была арганізаваная Беларускім інстытутам навукі і мастацтва сумесна з Беларускай фундацыяй Крачэўскага пры інфармацыйнай падтрымцы Асацыяцыі беларусаў у Амерыцы.




Янка Запруднік (сапраўднае імя Сяргей Вільчыцкі, 1926–2022) – беларускі гісторык, журналіст, грамадскі дзеяч у ЗША – паходзіў з мястэчка Мір, вучыўся ў гандлёвай школе ў Баранавічах, у 1944 годзе быў вымушаны пакінуць радзіму і канец Другой сусветнай вайны заспеў у Нямеччыне. Тут, каб трапіць у беларускі лагер для перамешчаных асобаў, вымушаны быў змяніць імя і прозвішча і стаў афіцыйна Янка Запруднікам.

У Нямеччыне маладзён скончыў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы, заангажаваўся ў беларускі скаўтынг і стаў актыўна ўдзельнічаць у нацыянальным грамадскім жыцці. Разам з 11 іншымі гэткімі ж маладзёнамі, што прагнулі здабыць вышэйшую адукацыю, Янка Запруднік на пачатку 1948 года скіраваўся на працу ў вугальных капальнях Вялікабрытаніі, дзе марыў не толькі зарабіць грошы на навучанне, але і пашыраць веды пра беларусаў і Беларусь. Сябры "Дванаццаткі" на ўласны кошт сталі выдаваць скаўцкі часопіс "Наперад!" і працягнулі гэтую справу надалей у бельгійскім Лювэне, дзе змаглі атрымаць стыпендыі на навучанне ў мясцовым каталіцкім універсітэце.

У 1954 годзе Янка Запруднік атрымаў дыплом гісторыка і адразу ж скіраваўся на працу ў нядаўна арганізаваную беларускую рэдакцыю радыё "Вызваленне" (пазней радыё "Свабода") у Мюнхене. І ў часе навучання ў Лювэне, і падчас працы ў Мюнхене маладзён быў актыўна заангажаваны ў беларускае грамадскае жыццё: удзельнічаў у розных беларускіх арганізацыях, спяваў у студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Міколы Равенскага, дапамагаў у выданні газеты "Бацькаўшчына". У гэты ж час ён ажаніўся з сяброўкай з гімназічных часоў Вольгай Харытончык, у Мюнхене ў сям'і з'явілася першая дачка Ніна.

Аднак Янка Запруднік марыў пра акадэмічную кар'еру гісторыка і дзеля гэтага ў другой палове 1950-х пераехаў з сям'ёй у ЗША. Пасяліўся ў Нью-Ёрку, дзе здолеў у 1969 годзе абараніць доктарскую дысертацыю, аднак, разам з тым, працягнуў працу ў беларускай рэдакцыі радыё "Свабода", зноў далучыўся да беларускіх грамадскіх арганізацый, быў сябрам БІНіМа, Беларуска-Амерыканскага задзіночання, Згуртавання беларускай моладзі ў Амерыцы й інш. Таксама быў шматгадовым сябрам Рады БНР, рэдагаваў розныя беларускія перыёдыкі.

Як толькі з'явілася магчымасць наведваць Беларусь у 1990-х, ён стаў наладжваць кантакты з суродзічамі: палітыкамі, пісьменнікамі, грамадскімі актывістамі і інш., каб дапамагаць нацыянальнаму адраджэнню. Разам з другой жонкай, спадарыняй Надзяй Запруднік, ён уклаў цягам трох дзесяцігоддзяў у розныя беларускія праекты, выданні, аднаўленне цэркваў, падтрымку сваякоў і беларускіх дзеячаў у Беларусі вялікія грошы. Янка Запруднік быў сябрам Беларускага ПЭН-Цэнтру, Таварыства беларускай мовы, Саюзу беларускіх пісьменнікаў, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

У творчай спадчыне гісторыка й журналіста – кнігі, прысвечаныя як мінуламу беларускай эміграцыі, гэтак і ўласна гісторыі Беларусі (у тым ліку і англамоўныя), а таксама выданні на падставе багатага асабістага архіву. Апаведы пра пакручасты жыццёвы шлях дзеяча, гэтаксама як і розныя прыклады інтэлектуальнага даробку Янкі Запрудніка і склалі асноўны змест новай кнігі.

На пачатку прэзентацыі адна з укладальнікаў, архівістка Беларускай фундацыі Крачэўскага Валянціна Трыгубовіч згадала, што над кнігай працавалі акрамя яе яшчэ тры асобы: гісторык Наталля Гардзіенка, архівіст Лявон Юрэвіч і ўдава Янкі Запрудніка спадарыня Надзея Запруднік, якая не магла прысутнічаць на імпрэзе.

У сваім выступе Наталля Гардзіенка, куратарка серыі "Людзі эміграцыі", распавяла пра асноўныя жыццёвыя этапы дзеяча, а таксама акрэсліла асаблівасці зместу кнігі. "Янка Запруднік" – мемарыяльнае выданне, якое мела на мэце не толькі распавесці пра выбітнага беларуса-эмігранта вуснамі іншых, але й як мага больш разнастайна рэпрэзентаваць ягоную творчую спадчыну. Таму ў кнігу ўвайшлі і ўрывак з дысертацыі гісторыка, і ягоныя даследчыя публікацыі, і скрыпты для радыё "Свабода", і эсэ, і вершы, і інтэрв'ю, і дзённікі, і ўспаміны, і вялікае ліставанне, і бібліяграфія. Усё гэта мае на мэце актуалізаваць памяць пра тое, чым жыў і што ствараў Янка Запруднік.

Даследнік гісторыі эміграцыі Лявон Юрэвіч дадаў пра важнасць для Янкі Запрудніка ідэі пераемнасці, забеспячэння працягу беларускай працы. Сярод іншага, сведчаннем гэтага стала заангажаванасць у беларушчыне ягоных уласных дачок у маладым узросце, а цяпер – тое, што гэтыя дочкі, Ніна і Вера, разам са спадарыняй Надзеяй Запруднік цалкам зафундавалі выданне прэзентаванай кнігі. Зацікаўленасць дзяцей у захаванні і папулярызацыі творчай спадчыны бацькоў, на жаль, не асабліва пашыраная з'ява ў асяроддзі беларускіх эмігрантаў.

Валянціна Трыгубовіч згадвала ў часе прэзентацыі пра гісторыю ўласных кантактаў з Янкам Запруднікам, ягоную прагу ўвесь час вывучаць нешта новае, а таксама пра багатую і надзвычай цікавую архіўную спадчыну дзеяча, якая захоўваецца і ў Менску, і ў Ратгерскім універсітэце ў Нью-Джэрсі, і ў Беларускай фундацыі Крачэўскага ў Нью-Ёрку.

Некаторыя з прысутных на прэзентацыі падзяліліся сваімі ўспамінамі пра героя кнігі. Так, малады эмігрант Сяргей Харытонаў распавёў пра знаёмства з Янкам Запруднікам у 2021 годзе і тую ўдзячнасць, якую ён адчуваў ад усведамлення, як шмат было зроблена беларускімі эмігрантамі ў савецкія часы для захавання беларушчыны. Спадарыня Ганна Сурмач згадала, якімі важнымі былі кантакты з беларусамі замежжа для суродзічаў у Беларусі пры канцы 1980-х – на пачатку 1990-х, адзначыла важную ролю Рады БНР, сябрам якой Янка Запруднік быў цягам больш як паўстагоддзя, казала пра тое, што беларусы са старой эміграцыі стваралі ўласную Беларусь у замежжы й сёння гэткая ж задача зноў актуальная для суродзічаў у эміграцыі.

Адзіная ў залі прадстаўніца яшчэ той старой эміграцыйнай хвалі спадарыня Ала Орса-Рамана згадала пра важную місію "паставіць Беларусь на мапу свету", якую мелі беларусы на Захадзе пасля Другой сусветнай вайны. Пашырэннем ведаў пра беларусаў у амерыканскім грамадстве займаўся й Янка Запруднік. Спадарыня Валянціна Якімовіч распавяла пра вясёлы выпадак з уласных кантактаў з дзеячам на пачатку 1990-х, калі ён, пасля смерці першай жонкі, быў зайздросным жаніхом, на якога палявалі беларускі і з ЗША, і з Беларусі.

Выступы ў часе прэзентацыі суправаджаліся паказам здымкаў з розных перыядаў жыцця Янкі Запрудніка. Імпрэзе папярэднічаў смачны пачастунак, арганізаваны пад кіраўніцтвам спадара Валера Дворніка. А па заканчэнні прэзентацыі кожны ўдзельнік мог набыць сабе й новую кнігу, і ранейшыя працы дзеяча, а таксама выданні Беларускага інстытуту навукі і мастацтва.

**Тацьцяна Гаркавая, bielarus.info**

прэзентацыя

# "ГОРАД НА ГАРЫ". У ВІЛЬНІ ПРЭЗЕНТАВАЛІ ВЯЛІКУЮ АНТАЛОГІЮ БЕЛАРУСКІХ ПЕРАКЛАДАЎ СУЧАСНАЙ ЛІТОЎСКАЙ ПАЭЗІІ

Прадстаўленне выдання адбылося 13 лютага ў межах Стральцоўскага фэсту. "Горад на гары" прадстаўляе 29 галасоў найноўшай літоўскай лірыкі, многія з аўтараў перакладзеныя на беларускую мову ўпершыню.

Увечары 13 лютага зала Віленскага дома літаратараў – Vilniaus literatų namai – поўніцца творчай публікай дзвюх краін. Кнігі беларускіх перакладаў літоўскай паэзіі толькі прыехалі з польскага выдавецтва "Экапрэс", дзякуючы стваральніку "Камунікаты" Яраславу Іванюку.

Імпрэзу вялі ўкладальнік, перакладчык Ціхан Чарнякевіч і паэт і перакладчык Андрэй Хадановіч. Сама ж ідэя кнігі належыць паэтцы і перакладчыцы Марыі Мартысевіч.

"Цягам больш як дзесяці гадоў на паэтычным фестывалі "Вершы на асфальце" традыцыйна выступалі госці з Літвы – паэты і перакладчыкі, кіраўнікі пісьменніцкіх арганізацый. Прачытаныя на фэсце вершы не раз друкаваліся ў перыядычных выданнях, перадусім у часопісе "Дзеяслоў", але ніколі не аб'ядноўваліся ў кнігу. Як развіццё гэтай ідэі, з'явілася думка прадставіць сучасную паэзію Літвы як мага больш шырока, бо прадстаўнічыя анталогіі з дзясяткамі аўтараў не выходзілі на беларускай мове з савецкіх часоў", – адзначыў укладальнік кнігі.

На імпрэзе прадстаўленыя і папярэднія выданні: гэта двухтомнік "Літоўская савецкая паэзія" ажно 1977 года і мікраанталогія Алеся Разанава "Белы замак на гары", што выйшла ў 1992-м. "Назва новай анталогіі, як бачыце, наследуе кнізе Алеся Разанава", – зазначае Ціхан Чарнякевіч.

Паводле ўкладальніка, "ад нашай размовы на канапе ў "Павільёнасе" з літоўскімі калегамі" да з'яўлення кнігі сучаснай літоўскай паэзіі па-беларуску прайшло два гады. Каардынатарам праекта выступіў Міжнародны саюз беларускіх пісьменнікаў.

Пры дапамозе кансультантаў, паэтаў Маруса Бурокаса і Вітаса Дэкшніса, стваральнікі анталогіі – Марыя Мартысевіч, Андрэй Хадановіч і Ціхан Чарнякевіч – выбралі спіс найбольш яркіх аўтараў і кніг, якія выйшлі ў Літве ў апошняе дзесяцігоддзе і з'яўляюцца вызначальнымі і найбольш актуальнымі для разумення сучаснай літаратурнай сітуацыі ў краіне. Такім чынам, у кнізе "Горад на гары" чытачы пабачаць і тыя тэксты, якія ўжо можна было прачытаць у перыёдыцы, аднак ладную частку анталогіі складаюць творы, якія былі перакладзеныя адмыслова для гэтага выдання.

Кніга змяшчае біяграмы ўсіх аўтараў і аўтарак анталогіі з пералікам асноўных публікацый і кніг. Анталогію адкрывае кароткі нарыс гісторыі літоўскай паэзіі, напісаны Ціханам Чарнякевічам. Выданне аздобленае фотатворамі Кацярыны Мяць і Генадзя Шарыпкіна.

Падчас прэзентацыі свае пераклады чыталі Уладзімір Арлоў, Ціхан Чарнякевіч, Андрэй Хадановіч, чыталі свае творы ў арыгінале Эўгеніюс Алішанка, Грэта Амбразайце, Давіле Багдонайце і іншыя.

"Мне здаецца, сёння, калі свет зусім вар'яцее і расколваецца ў канфліктах, зроблена вельмі важная справа для дыялогу, узаемаразумення і ўзаемапавагі", – так кажа пра выданне найноўшай літоўскай паэзіі на беларускай мове Ціхан Чарнякевіч.




Быў на імпрэзе і вядомы зборнік сучаснай беларускай паэзіі "Baltai raudonai baltai" ("Белае Чырвонае Белае"), які выйшаў у 2022 годзе намаганнямі літоўскіх літаратараў у выдавецтве "Bazilisko ambasada" на літоўскай мове.

"Укладаючы кнігу, рэдактары звярталі ўвагу на тое, каб паказаць найлепшае з актуальнага і, можа быць, у першую чаргу – не самае вядомае беларускаму чытачу", – зазначае Ціхан Чарнякевіч.

Адной жа з галоўных задач гэтай кнігі, паводле ўкладальніка, ёсць знаёмства: "Нягледзячы на стагоддзі жыцця нашых народаў у параўнальна лагодным добрасуседстве, мы, да жалю, мала ведаем адно пра аднаго. Моўны бар'ер, з сумам даводзіцца канстатаваць гэта, працуе досыць адназначна ў сваёй дэфініцыі – агароджа мовы, якою аточана літоўская літаратура, даволі рэдка і спарадычна пераадольваецца беларускімі перакладчыкамі. (…) Шмат хто з аўтараў гэтай кнігі даўно варты важкіх тамоў выбраных твораў па-беларуску. Застаецца спадзявацца, што справа будзе рухацца", – кажа Ціхан Чарнякевіч.

З прамовай падчас прэзентацыі выступіў Андрэй Хадановіч. Прамова вельмі дасціпная, таму публікуем яе цалкам, без зменаў, і вельмі раім прачытаць да канца тым, хто не быў на прэзентацыі:

"Я прачытаю гэтыя словы з паперкі, дакладней са смартфона. Пра гэта мяне папрасіў наш мадэратар і ўкладальнік анталогіі Ціхан Чарнякевіч. Мабыць, ён хацеў, каб я напісаў прамову загадзя, ведаючы, што прэзэнтацыя будзе адбывацца ў дзень маіх народзінаў, а з імяніннікамі на імпрэзах бывае па-рознаму. Кажуць, як сустрэнеш год, так яго і правядзеш. Веру, што ў свой наступны год часта буду перакладаць літоўскія вершы.

Літоўскую паэзію перакладаю каля дваццаці гадоў. Тое, што я не ведаю літоўскай мовы, мне ніяк не замінае, хутчэй наадварот – моцна дапамагае. Бо мае калегі і сябры, выдатныя літоўскія паэткі і паэты, робяць столькі падрыхтоўчай працы, што пасля гэтага проста сорамна перакладаць кепска.

Ладнай часткі гэтых перакладаў не было б, каб у другой палове нулявых не з'явілася выдатнага фестывалю "Вялікае Княства Паэзіі", які быў прыдуманы ў Літве і адначасова ў Беларусі. У Беларусі, бо гэта было ў Менску, а ў Літве – таму што на тэрыторыі Літоўскай Амбасады. Фестываль адбываўся ў Менску, у Вільні, у Кракаве, у Кіеве, у Харкаве, у Луцку – і да кожнай сустрэчы з'яўляліся новыя пераклады, а пасля кожнай – новыя сяброўствы, з якіх раслі чарговыя вершы, якія таксама было трэба перакладаць.

Потым беларускія і літоўскія паэты (разам з калегамі з Украіны і Грузіі) сустракаліся на пленэрах, дзе перакладалі адно аднаго на беразе мора – спачатку Балтыйскага, у Палангзе, а потым Чорнага, у Батумі. Аднойчы я апісаў наш творчы працэс у кароткім вершыку:

*Беларускія перакладчыкі*
*працуюць зранку,*
*старанна падбіраючы,*
*падбіраючы словы,*
*якія раскідвалі ўночы*
*п'яныя грузінскія паэты.*

Як вы цудоўна разумееце, на месцы п'яных грузінскіх паэтаў маглі быць – і часта бывалі – беларусы і літоўцы. З часам паэты-перакладчыкі дасягнулі такой дасканаласці, што навучыліся абыходзіцца без мора.

Напрыклад, на літоўска-ўкраінскіх пленэрах у Львове, куды – згодна з прынцыпам "Трэцім будзеш?" – запрашалі і беларусаў. Або на менскім фестывалі "Вершы на асфальце", рэгулярнымі гасцямі якога сталі літоўцы. Тым больш, што іх прыезд актыўна падтрымлівала Літоўская Амбасада. Асабліва калі амбсадарам быў паэт Эвалдас Ігнатавічус.

Сёння міжнародны паэтычны фестываль са зразумелых прычынаў не можа адбывацца ў Беларусі, і вось ужо ў чацвёрты раз наш фэст праходзіць тут, у Вільні – і гэта было б немагчыма без салідарнасці і дапамогі літоўцаў. На ім адбылася і прэзентацыя анталогіі беларускай паэзіі па-літоўску "Бела-чырвона-белы", чыё з'яўленьне – таксама моцны і прыгожы жэст літоўскай салідарнасці з намі і нашай незалежнай культурай у часы рэпрэсій.

Анталогія "Горад на гары" з беларускімі перакладамі літоўскай паэзіі, што з'яўляецца таксама ў Вільні і таксама на нашым фэсце, – спроба кроку ў адказ. Спадзяюся, яе прачытаюць многія беларусы, якія зараз жывуць у Літве. А таксама ў Польшчы, Грузіі і паўсюль, дзе мы сёння жывём. Веру ў працу кантрабандыстаў-кніганошаў, дзякуючы якім кнігу будуць чытаць і ў самой Беларусі".

Кнігу можна замовіць праз інтэрнэт-краму "Камунікат".

Рыгор Сапежынскі, budzma.org

фэст

# "Здалёк нараджаюцца каштоўныя творы". Пра што размаўлялі падчас адкрыцця Стральцоўскага фэсту

Лаўрэатам прэміі імя Міхася Стральцова стаў перакладчык, выдавец, паэт, этнограф, філолаг, кандыдат гістарычных навук Кастусь Цвірка. Узнагарода прысуджана "за вернасць нацыянальным літаратурным традыцыям, за пераклады беларускай польскамоўнай паэзіі 19 стагоддзя і папулярызацыю айчыннай класікі ў серыі „Беларускі кнігазбор"".

Чацвёрты год запар Міжнародны паэтычны фестываль "Вершы на асфальце" праходзіць не ў Беларусі, агулам жа прэмію ўручалі ў восьмы раз. Сёлета цырымонія ўзнагароджання прайшла ў віленскім Клубе пісьменнікаў (Rašytojų klubas).



Бірутэ Янушкайтэ і Ціхан Чарнякевіч

## Фэст усё больш становіцца беларуска-літоўскім

"Летась мы мелі гарачыя дыскусіі, паэтычныя чытанні з удзелам літоўскіх калег, сёлета прэзентаваная анталогія перакладаў на беларускую літоўскай паэзіі, выйшлі зусім нядаўна некалькі кніг літоўскіх аўтараў, сёлета выйшаў таксама зборнік беларускай паэзіі, прысвечанай Вільні", – адзначыў адзін з выступоўцаў.

Старшыня Саюза літоўскіх пісьменнікаў Бірутэ Янушкайтэ зазначыла, што добра памятае тыя часы, калі гэты фестываль праходзіў у Мінску і на яго запрашалі паэтаў з Літвы. "Аднойчы я і сама была госцяй гэтага фэсту. Ведаю, што ўжо тады беларускім пісьменнікам не было лёгка, ужо тады яны змагаліся за права пісаць на сваёй роднай мове, якая выціскалася са школ, падручнікаў, установ і арганізацый. Нам тады было дзіўна, няўтульна і незразумела, як можа так быць у 21 стагоддзі, калі здавалася, што Еўропа пасля развалу СССР кардынальна змянілася. Сёння мы бачым, што можа быць яшчэ нашмат-нашмат страшней. Сёння мы жывём пад яшчэ большай пагрозай – ужо не толькі Беларусі, але і краінам Балтыі", – сказала літоўская пісьменніца.

"Сёння, на жаль, вы, якія хочаце свабодна размаўляць на роднай мове, якія хочаце казаць праўду, глядзіце на сваю радзіму здалёк. Хто з Вільні, хто з Польшчы, хто з больш далёкіх краін. Аднак, калі я бачу штогод, што вы, як птушкі, ляціце з усіх куточкаў свету на гэты фестываль, я веру, што надзея яшчэ ёсць. Што магчымасць вярнуцца дадому не выкрасленая з вашай свядомасці.

А пакуль што свой любімы дом, сваю радзіму вы носіце, возіце, быццам слімак сваю хатку, стараецеся яе не згубіць і не страціць, не прамяняць яе на нейкую чужую ракавіну, – зазначыла Бірутэ Янушкайтэ. – Думаю, многія з вас, як і Адам Міцкевіч, які нарадзіўся на Навагрудчыне, з вялікай настальгіяй глядзіце на пакінутае ўдалечыні мінулае. І ў чым я цвёрда перакананая, з таго погляду здалёк нараджаюцца каштоўныя творы. Напэўна, гэта адзіны добры бок эміграцыі – каханне заўсёды ачышчаецца адлегласцю. Калі, вядома, яно было ці ёсць. Магчыма, многія з вас чулі пра літоўскага філосафа, паэта, публіцыста Відунаса. Ён вельмі прыгожа сказаў, што свет без Радзімы – быццам старонка, якая лёгка ды хутка чытаецца. А каб зразумець сутнасць Радзімы – трэба навучыцца спакойна засяроджвацца у сабе. Толькі тады ў душы ціха зазвініць. Радзіма – гэта пачатак і сутнасць дум нашых, таемная асалода чалавека. Шчыра жадаю вас заставацца з гэтай асалодай дзе б вы ні былі".



Прадстаўніца шведская Саюзу пісьменнікаў Ан Вікстром

## "Вы маеце нашу непахісную падтрымку"

Прадстаўніца Шведскага саюза пісьменнікаў Ан Вікстром зачытала ліст ад новай кіраўнічкі саюза Ані Хрысцін Гату: "Сітуацыя ў Беларусі вельмі цяжкая. Аўтарытарны рэжым Лукашэнкі трымаецца за ўладу, рэпрэсіі бязлітасныя як ніколі. Але міжнародная ўвага, якую мы бачылі колькі год таму – падчас рэвалюцыі 2020 года, здаецца, згасла. Хаця зараз яна патрэбная як ніколі.

Перамены не прыйдуць без супрацоўніцтва, настойлівасці і салідарнасці. Шведскі саюз пісьменнікаў цвёрды ў сваёй салідарнасці з беларускімі калегамі як у Беларусі, так і ў дыяспары. Вы маеце нашу непахісную падтрымку, мы будзем падтрымліваць вас, пакуль справа не будзе зробленая і беларуская літаратура і слова не змогуць квітнець свабодна".

## Нябачны патэнцыял Беларусі

Яўген Вапа, галоўны рэдактар "Нівы", штотыднёвіка беларускай меншасці ў Польшчы і дырэктар "Радыё Рацыя", звярнуў увагу на той, пакуль нябачны "патэнцыял, які ёсць зараз у самой Беларусі".

"Якое асэнсаванне ёсць там творчага працэсу, як асэнсоўваюцца цяжка набрынялыя тэмы, як яны пішуцца. Дай Божа, хачу як найхутчэй убачыць гэты фестываль бязмежна адкрытым", – сказаў Яўген Вапа.

Адзін з выступоўцаў з Беларусі заўважае, што апошнім часам даводзіцца канстатаваць, што беларуская выдавецкае жыццё перамяшчаецца за межы Беларусі: "Можна сказаць, што кніжак беларускіх выдаецца зараз больш за мяжой, чым у самой Беларусі. Засталося 2-3 выдавецтвы, якія яшчэ асмельваюцца выдаваць па-беларуску сучасных аўтараў. Дзяржаўныя калі і выдаюць беларускае, то толькі класікаў. Тым не менш, кнігі выходзяць. І, па нашай традыцыі, кнігу мы маем – „Чатыры вятры", выбранае Кастуся Цвіркі. На жаль, лаўрэат ужо па кепскай нашай традыцыі не змог прыехаць з Беларусі на ўганараванне".

## Як пачынаўся беларускі кнігазбор

"Я памятаю як гэты „Беларускі кнігазбор" пачынаўся, – успамінае адзін з прамоўцаў з Беларусі. – 1995 год мінулага тысячагоддзя… Кастусь Цвірка хадзіў па кабінетах Міністэрства культуры і друку, дзіўныя былі часы – у гэтым міністэрстве тады пабеларуску размаўлялі ўсе: ад міністра да супрацоўнікаў аддзела кадраў. Але ўжо тады, скажам так, не надта спрыяльная была атмасфера для кнігавыдання. І вось у кабінеце намесніка міністра, адказнага за кнігавыданне, Кастусь Цвірка выкладае свой праект: трэба выдаць у серыі 200 тамоў беларускіх шэдэўраў. Намеснік міністра засмяяўся і кажа: „Кастусь, гэта нерэальна, 200 тамоў – хай Акадэмія навук гэтым займаецца". Фактычна, вельмі малая падтрымка была дзяржаўная – і Кастусь сам стаў гэтай акадэміяй. І ў тым жа годзе выходзіць першы том „Ян Чачот" – і пайшло. Самыя лепшыя беларускія літаратуразнаўцы і навукоўцы працавалі над гэтай серыяй. Гэта былі кнігі-адкрыцці. Выйшла 111 тамоў. (…) „Беларускім кнігазборам" Кастусь Цвірка паставіў сабе прыжыццёвы помнік.

Сёння кнігі з гэтай серыі ў Беларусі прызнаюць экстрэмісцкімі. І само выданне серыі спыненае. Спыніўся „Беларускі кнігазбор" на томе Алеся Разанава, Ганна Кісліцына рыхтавала гэта выданне, выдатная праца, якая, на жаль, да друкарскага варштата пакуль не дайшла".

Рыгор Сапежынскі, budzma. org

навіны

# ШЭСЦЬ МЕСЯЦАЎ МУЗЕЮ "ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ З УКРАІНАЙ У СЭРЦЫ"

8 лютага споўнілася шэсць месяцаў з моманту ўрачыстага адкрыцця музея "Вольная Беларусь з Украінай у сэрцы" ў Львове, які адкрыўся разам з "Домам Вольнай Беларусі".

Гэтае знакавае мерапрыемства адбылося ў 510-ю гадавіну бітвы пад Воршай, якая мае вялікае гістарычнае значэнне для беларускага народа, – кажа кіраўнік музея і фонда "Вільна Білорусь" Аляксей Францкевіч:

– З раніцы завіталі беларускія валанцёры беларускага аўтапалка. Да нас завітаў камандзір Другога Інтэрнацыянальнага Легіёна Санта. І сёння ў нас беларуская школа. Багата вучняў, людзей, якім цікава беларуская мова. А пасля навучання абмяркуем, што мы зрабілі за паўгода, што плануем зрабіць. Чыста сімвалічна адзначым дату – паўгода існавання ў Львове ва Украіне і Дома вольнай Беларусі, і музея. Таму што такога музея, на маю думку, пакуль, на жаль, больш няма.

Сярод тых, хто наведаў музей у гэты дзень, быў Руслан Мірашнічэнка, камандзір 2-га Інтэрнацыянальнага Легіёна з пазыўным Санта. Ён азнаёміўся з выставай "З Украінай у сэрцы" і перададзенымі асабістымі рэчамі Марыі Зайцавай. Было дамоўлена пра стварэнне новага стэнда, прысвечанага Зайцавай, выдаткі на выраб якога ўзяў на сябе камандзір.



racyja.com

# У КІЕВЕ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

Беларускія валанцёры і добраахвотнікі разам адзначылі Дзень роднай мовы ў Кіеве.

Пра сустрэчу распавядае валанцёрка і актывістка з Беластока Марына Кіявец:

– Сабраліся на сустрэчы фонд, з якім я працую, беларусы, прыйшлі беларускія ваяры, валанцёры. Запрасілі таксама ўкраінцаў, дарэчы, яны вывучалі нашу мову 5 год ва ўніверсітэце і размаўляюць даволі добра. Я б сказала, што дастаткова файная мова насамрэч, таму што, на жаль, не ўсе беларусы валодаюць у такім аб'ёме мовай, як украінцы, якія вывучалі яе. Таму файна, мне спадабалася, і гутаркі былі жывыя, цікавыя. Шмат тэмаў абмеркавалі і зачытвалі вершы беларускіх паэтаў.

Арганізацыя, якая ладзіла гэтую сустрэчу ў Кіеве, цяпер і сама патрабуе дапамогі. Каб дапамагчы ёй створаны адмысловы рахунак. Таксама заданаціць ім можна праз Patreon: https://www.patreon.com/sustrecha_hub



racyja.com

# АКЦЫЯ ДА ГАДАВІНЫ ПАЧАТКУ ВАЙНЫ ВА УКРАІНЕ Ў БЕЛАСТОКУ

На рынку Касцюшкі ў Беластоку адбылася акцыя, прымеркаваная да гадавіны поўнамаштабнага ўварвання Расеі ва Украіну. Ініцыятарамі сталі беларуская дыяспара і польскія ўлады, а да мітынгу далучыліся прадстаўнікі ўкраінскай супольнасці і Падляшскага камітэта абароны дэмакратыі. Прадстаўнікі украінскай дыяспары, прывялі з сабой дзяцей, якія нарадзіліся ў 2022 годзе. Агулам сабралася каля 400 чалавек.

Мэта акцыі – нагадаць пра салідарнасць, якая не дазволіла агрэсарам здзейсніць свае планы і працягвае ім супрацьстаяць. Гучалі заклікі да максімальнага спрыяння Украіне, агучвалася гісторыя падтрымкі за тры гады, неспакой за суседзяў і пагрозы для ўсёй Еўропы з боку Расеі.

Гаворыць адзін з арганізатараў акцыі – прадстаўнік беларускай дыяспары ў Беластоку Ян Абадоўскі:

– Запрашаем усіх жыхароў Беластока. Нам трэба паказаць, што жыхары горада Беластока, як і тры гады таму, гатовы дапамагаць і падтрымліваць, паказваць нашу салідарнасць з мужным народам Украіны. Мы схіляем галовы перад воінамі, якія бароняць Айчыну. Мы ганарымся беларусамі, якія ваююць на баку Украіны, якія падтрымліваюць ЗСУ, якія валанцёраць.

Падляшскі ваявода Яцэк Бжазоўскі падчас выступу на мітынгу падкрэсліў важнасць падтрымкі Украіны і прывёў актуальныя дадзеныя:

– Падляшскае ваяводства таксама, як і ўсе палякі, паказалі свае вялікія сэрцы і праявілі салідарнасць з украінцамі з першага дня нападу Расеі на Украіну. Зараз дапамога крыху меншая з-за розных прычын, але і лічба асобаў зменшылася. Калі мы кажам пра фінансы, то агулам гэта больш чым 270 мільёнаў злотых.




Разам з іншымі на мітынгу выступіў галоўны рэдактар Беларускага Радыё Рацыя Яўген Вапа:

– Не хочам такога падзелу, не хочам такога міру, які ашукае і падзеліць народы гэтай часткі зямлі і знішчыць Украіну і другія народы. 210 чалавек былі асуджаныя ў Беларусі за антываенную рыторыку, рэйкавыя партызаны.. Неабходна змаганне і вольныя Украіна, Польшча і Беларусь.

У прамове ён падкрэсліў важнасць барацьбы за родную зямлю праз стагоддзі, якую вялі і яшчэ будуць весці беларусы.

Мітынг завершыўся, і ўкраінцы заспявалі гімн Украіны і "Ой у лузе"… Пасярод пляцу ўтварылася песеннае кола.

racyja.com

юбілей

# Песенныя калектывы з Гарадка святкуюць свае юбілеі

"Расспяванаму Гарадку" 70 гадоў, а "Асенняму лісту" – 30. З гэтай нагоды ў Гмінным асяродку культуры ў Гарадку адбыўся вялікі юбілейны канцэрт, на які сабраліся гараджане, сябры калектываў і госці. "Расспяваны Гарадок" – найстарэйшы ансамбль у Гарадку, які ўжо даўно лічыцца музычным тварам гэтага мястэчка. Цікава, што калектыў з'явіўся задоўга да таго, як у Гарадку паўстаў Дом культуры.




Сёння побач з "Расспяваным Гарадком" гміну рэпрэзентуюць "Асенні ліст" з Гарадка і "Каліна" з Залук. Усе гэтыя калектывы маюць падобны стыль і імкнуцца спяваць песні свае, колішнія, ці хаця б прадстаўляць беларускую песню ў традыцыйным для гэтай мясцовасці гучанні. Так што мода на фанаграму тут не прынялася, а спевы традыцыйна суправаджае гармонік.

Кажуць спявачка з "Расспяванага Гарадка" Марыя Урублеўская і гарманіст "Расспяванага Гарадка" і "Асенняга ліста" Віктар Маланчык:

– Трэба песнямі іх трошкі адрозніць – то адзін калектыў, то другі. Найлепшыя ўражанні, дзякуй Богу дажыў я да такога свята, дзяўчаты цудоўныя, дай бог яшчэ паспяваць, і каб мяне здароўе не падвяло.

– Я пішу вершы, сама апрацоўваю і спяваю. Часам наш маэстра Віктар Маланчык прывозіць песні, многа прывозіць. Так што мы бярэм, апрацоўваем, і спяваем, у нас штогод нешта новае. Галоўная мова – мова спеваў.

Удзельніцы калектываў падкрэсліваюць, што ў іх заўсёды спявалі пераважна немаладыя жанчыны, якія ўжо выгадавалі дзяцей і мелі вольны час. Але цяпер спявачкі спадзяюцца бачыць больш моладзі ў сваіх шэрагах. Кажуць, гэта не толькі пытанне далейшага жыцця ансамбляў, але і падтрымання беларускай мовы ў Гарадку. Бо не толькі на выступленнях, але і на рэпетыцыях між сабою тут прынята гаварыць па-беларуску.

Да юбілейнай даты была выдадзеная плыта абодвух калектываў пад назвай "Сёння свята ў нас".

racyja.com

# Беларускі ліцэй у Гайнаўцы: як жыве і на што спадзяецца

Працяг са старонкі 1.

Маўляў, вывучаць мову нацыянальнай меншасці кожны мае права, але не мае абавязку. Да гэтага часу справа не вырашана, хоць у Польшчы ўжо паспела памяняцца ўлада. Ліцэй у Гайнаўцы трымаецца надалей свайго…

**"А хто я такі? Скуль я ўзяўся?"**

**– Як цяпер маладых людзей заахвоціць вывучаць беларускую мову? З увагі на сённяшнюю сітуацыю, на фоне вядомых палітычных падзей у Беларусі, якія ёсць аргументы? Маладыя людзі могуць сказаць: а навошта нам гэта патрэбнае?**

– Калі хтосьці падыходзіць да пытання мовы і спадчыны прагматычна, то тады сапраўды даволі цяжка адказаць на гэтае пытанне, навошта мне веданне беларускай мовы. І зараз калі ў Беларусі, нават у Беларусі, гавораць па-расейску, то цяжка на такім узроўні практычным і прагматычным адказаць на такое пытанне. Толькі навучанне мовы ў беларускім ліцэі ў Гайнаўцы ёсць на тое, каб падтрымліваць тоеснасць, а мова – адзін з носьбітаў культуры і ведаў. Тут мае месца больш эмацыянальнае значэнне, чым практычнае.

Дарэчы, у нас беларуская мова вывучаецца як родная мова, а не як замежная. Справа не ў тым, каб вучні мелі толькі моўныя кампетэнцыі, умелі правільна пісаць і гаварыць, але каб ведалі культуру, спадчыну, літаратуру, традыцыі, усё тое, што потым мае ім дапамагчы шукаць адказу на пытанне "а хто я такі, скуль я ўзяўся?"

**– Як вывучэнне беларускай мовы і літаратуры выглядае на практыцы ў вашым ліцэі?**

– У нашым ліцэі гістарычна было навучанне на беларускай мове, але ў працэсе гэта памянялася, так скажам, дзесяцігоддзі таму, за часамі, якіх я не памятаю. Потым стала вывучэнне мовы як школьны прадмет. Гэта тры гадзіны заняткаў у тыдзень, якія спалучаюць граматыку, правапіс, моўныя кампетэнцыі, літаратуру, элементы гісторыі і так далей.

Але гэта не адзіная форма, таму што школа традыцыйна рэалізавала шматлікія дзеянні дзеля падтрымання культурнай і нацыянальнай тоеснасці беларускай меншасці. Гаворка пра гурты музычныя, танцавальныя, потым вакальныя, розныя праекты, ініцыятывы, сустрэчы з прадстаўнікамі меншасці, з літаратарамі, гісторыкамі і так далей. Так што школа заўсёды вяла шырокую дзейнасць і не абмяжоўвалася толькі заняткамі па беларускай мове.

Акрамя таго, у пэўным моманце быў уведзены такі прадмет як "Гісторыя і культура беларускай нацыянальнай меншасці". Урокі беларускай мовы – гэта шырокі, агульнабеларускі кантэкст, а гэты прадмет для таго, каб паказаць больш канкрэтна гісторыю і культуру меншасці.

Таксама некалькі гадоў у школе вядзецца навучанне з частковым выкарыстаннем беларускай мовы, у так званай двухмоўнай форме. Ёсць некалькі прадметаў, на якіх побач з польскай мовай выкарыстоўваецца і беларуская мова. Дзякуючы гэтаму вучні часцей сустракаюцца з мовай, часцей пішуць на ёй, чытаюць.

**"Срэбная школа"**

**– Ліцэй у Гайнаўцы традыцыйна сярод найлепшых у рэгіёне…**

– Так, праўда, гэта кожны год пацвярджаецца і вынікамі экзаменаў на атэстат сталасці, і вынікамі рэйтынгу "Перспектывы" ("Perspektywy"). Гэта незалежны рэйтынг, які паказвае якасць працы школы. Кожны год мы атрымліваем званне "срэбнай школы", атрымліваем "Срэбны шчыт", а значыць, знаходзімся сярод найлепшых у ваяводстве. І гэта вельмі цешыць.

"Мы ўсе ў школе ўсведамляем, што наш поспех магчымы дзякуючы таму, што гэта школа, накіраваная на асяроддзе беларускай нацыянальнай меншасці".

– Гэтую школу заснавалі як школу для беларускай меншасці, а большасць выдатных настаўнікаў, якія сёння працуюць у ліцэі, гэта зноў жа выпускнікі гэтага ліцэя. Вялікая частка бацькоў, дзеці якіх у нас цяпер вучацца, гэта таксама выпускнікі Гайнаўскага беларускага ліцэя. Таму ўсе вельмі заангажаваныя ў працу школы. Настаўнікі аддаюць душу і сэрца ў сваю працу, і бацькі таксама вельмі ангажуюцца і пасылаюць сваіх дзяцей у нашу школу, каб дзеці атрымалі добрую адукацыю на высокім узроўні, але таксама, каб дзеці атрымалі тое, чаго не даюць іншыя агульнаадукацыйныя ліцэі – адмысловую атмасферу і веды пра нацыянальную меншасць.

21 лютага, у Дзень роднай мовы, у беларускім ліцэі ў Гайнаўцы пройдуць адмысловыя мерапрыемствы. Да гэтага дня прымеркаваны і конкурс "Беларуская гавэнда", які праходзіў 19 лютага, і ў межах якога вучні ліцэя, але таксама пачатковых і сярэдніх школ, чытаюць прозу на роднай мове (на літаратурнай беларускай ці на мясцовых гаворках).

"Гэта ўсё наша родная мова", – дадае дырэктар Ігар Лукашук.

Яна Запольская, budzma.org

навіны

# ЧЫМ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА ІСПАНІІ?

Дапамога дзецям палітвязняў, у тым ліку арганізацыя адпачынку для іх у цёплых еўрапейскіх краінах, аб'яднанне ў міждыяспаральныя супольнасці, правядзенне палітычных акцый.

Такімі самымі важнымі кірункамі дзейнасці на бягучы перыяд бачыць для беларускай дыяспары ў Гішпаніі адзін з яе лідараў Аляксей Носаў:

– Людзі сталі больш задзіночвацца ў міждыяспарныя супольнасці, і гэта ўжо наступны этап стасункаў.



Мы наладжваем звязкі з іншымі дыяспарамі і нават ствараем пэўныя адміністрацыйныя або актыўныя групы, што займаюцца канкрэтнымі пытаннямі.

Аляксей Носаў дадаў, што галоўная мэта на найбліжэйшы час, не аб'яднаць людзей у замежжы, а максімальна аб'яднаць. Для гэтага важна шукаць тэмы для супольнай актыўнасці без залежнасці ад краіны.

racyja.com

# ЧЫМ ЖЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА ІТАЛІІ?

Правядзенне палітычных акцый, дапамога беларускім ваярам, а таксама ўкраінцам, выстава беларускіх мастакоў ды спрыянне легалізацыі беларусаў.

Усё гэта бягучая дзейнасць прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Італіі, – распавяла беларуская грамадская дзячка Святлана Каралёва:

– У асобе неабыякавых беларусаў Італіі мы актыўна падтрымліваем нашых суайчыннікаў і ўкраінцаў. Нашыя ініцыятывы накіраваныя на дапамогу тым, хто апынуўся ў складанай сітуацыі, на прасоўванне беларускай павесткі і культуры ва ўсіх яе праявах, і на падтрымку ўкраінцаў у вайне супраць Расеі. Мы арганізоўваем розныя мерапрыемствы, дапамагаем з дакументамі, з вывучэннем італьянскай мовы, адпраўляем гуманітарную дапамогу, удзельнічаем у зборы сродкаў для каліноўцаў і ўкраінскіх ваяроў.



Святлана Каралёва дадала, што нягледзячы на тое, што шмат хто з беларусаў Італіі баіцца выходзіць на палітычныя акцыі, яны ўсё роўна ладзяцца. Проста колькасць удзельнікаў у параўнанні да 2021 ці 2022 года значна меншая.

racyja.com

памяць

# АДАМУ МАЛЬДЗІСУ ЗА ТРЫ ГАДЫ НА МАГІЛЕ ДАГЭТУЛЬ НЕ ПАСТАВІЛІ ПОМНІКА

Тры гады з намі няма знанага літаратуразнаўцы, крытыка і публіцыста Адама Мальдзіса, які памёр у студзені 2022 года.

А яго магіла на могілках у роднай вёсцы Задворнікі Астравецкага раёна выглядае і па гэты дзень вось так, паведамляе ў сваім тэлеграм-канале “Суполка беларускіх пісьменнікаў”

Прыкра, што нашчадкам не хапіла часу, каб праз тры гады ўсталяваць няхай і сціплы, але надзейны помнік.

Крыж, вядома, прастаіць яшчэ колькі сезонаў, але потым пахаванне рызыкуе не толькі занядбацца, але і стаць проста безыменным.

nashaniva.com




падарункі

## БЕЛАРУСЫ БЕЛЬГІІ ПАЧАЛІ ЗБОР ПАДАРУНКАЎ ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ВАЯРОЎ ДА ДНЯ ВОЛІ

Акцыя ўжо традыцыйная і ладзіцца фактычна ад моманту пачатку вайны.

Чаму важна падтрымліваць беларусаў, якія цяпер на лініі фронту, расказаў грамадскі дзеяч Зміцер Піменаў:

– Любы маленькі падарунак, дапамога, турбота – вельмі важныя зараз для каліноўца. Мне даводзілася з імі размаўляць, і яны кажуць, што нішто так не матывуе змагацца за праўду, як тое, што нехта нам дапамагае і праяўляе з намі салідарнасць.

Для таго, каб паўдзельнічаць у зборы, можна асабіста звярнуцца да Зміцера Піменава праз сацыяльныя сеткі. Галоўнае – не заставацца абыякавымі.

racyja.com

## Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2025 года

**4 сакавіка**
- 135 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч), каталіцкі святар, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі. Памёр у 1978-м.
- 20 гадоў таму, у 2005-м, памёр Карлас Шэрман, пісьменнік.

**5 сакавіка**
- 130 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Аляксандр Каваленя, археолаг. Расстраляны ў 1937-м.
- 85 гадоў таму, у 1940-м, памёр Аляксандр Сержпутоўскі, этнограф.
- 40 гадоў таму, у 1985-м, памёр Тодар Куніцкі, лекар, адзін з заснавальнікаў Беларускага Студэнцкага Саюза ў Вільні і Беларускага Сялянскага Саюза.
- 25 гадоў таму, у 2000-м, загінуў Мікола Ермаловіч, гісторык.

**8 сакавіка**
- 115 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Пётр Конюх, спявак, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Бельгіі, ЗША і Канадзе. Памёр у 1994-м.
- 95 гадоў таму, у 1930-м, нарадзіўся Яраслаў Пархута, пісьменнік. Памёр у 1996-м.

**10 сакавіка**
- 20 гадоў таму, у 2005-м, памёр Апанас Цыхун, пісьменнік.

**13 сакавіка**
- 135 гадоў таму, у 1890-м, нарадзіўся Аляксандр Савіч, гісторык. Памёр у 1957-м.

**14 сакавіка**
- 30 гадоў таму, у 1995-м, памёр Уладзімір Сядура (Глыбінны), пісьменнік, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**17 сакавіка**
- 115 гадоў таму, у 1910-м, нарадзіўся Хведар Ільяшэвіч, пісьменнік, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне. Загінуў у 1948-м.

**19 сакавіка**
- 130 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Тамаш Грыб, палітык. Памёр у 1938-м.
- 35 гадоў таму, у 1990-м, памёр Аляксандр Смаль, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

**21 сакавіка**
- 185 гадоў таму, у 1840-м, нарадзіўся Францішак Багушэвіч, пісьменнік. Памёр у 1900-м.

**23 сакавіка**
- 160 гадоў таму, у 1865-м, нарадзіўся Стары Улас (сапр. Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі), паэт. Памёр у 1939-м.
- 130 гадоў таму, у 1895-м, нарадзіўся Васіль Сташэўскі, пісьменнік. Расстраляны ў 1937-м.

**25 сакавіка**
- Дзень Волі
- 120 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Алесь Вечар, паэт. Памёр у 1985-м.
- 120 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Браніслаў Ржэўскі, літаратуразнавец. Памёр у 1980-м.
- 75 гадоў таму, у 1950-м, у Сіднеі адбыўся I з'езд сяброў Беларускага Аб'яднання ў Аўстраліі.

**28 сакавіка**
- 30 гадоў таму, у 1995-м, памёр Часлаў Найдзюк, юрыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№ 2 (273), люты 2025
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com